

1 - 3. 1994



ФОС
ЧАСОПІС
БРАЦТВА ПРАВАСЛАЎНАЙ МОЛАДЗІ
БЕЛАСТОЦКА-ГДАНЬСКАЙ ЕПАРХІІ



*Сабор Прападобных Айцоў Кіева-Пячэрскай Лаўры.*

**Ушанаванне памяці 27 (14) сакавіка.**

# Сьвятыня

Кіева-Пячэрская лаўра адыграла надзвычай важную ролю ў духовым жыцьці ўсяе Усходняе Славяншчыны.

Заснавальнікам Лаўры быў прападобны **Антоній**, які паходзіў з Любеча на Чарнігаўшчыне. Пасьля прабываньня ў вадным з манастыроў на сьв. Гары Афоне ён у 1051 годзе прыйшоў у Кіеў, і зь некалькімі сваімі вучнямі пачалі жыць у выкапаных імі самімі ў стромкім беразе Дняпра пячорах, у 3 км на поўдзень ад Кіева. Аскетычнае, падзьвіжніцкае жыцьцё ў малітве, посьце й працы, самаахвярнае служэньне Госпаду й бліжняму, заглыбленьне ў Сьвяшчэннае Пісаньне й роздумы над мэтай зямнога жыцьця як падрыхтоўкаю да прабываньня вечнага ў Богу, няспыннае дасканаленьне сябе ў набожнасьці, міласэрнасьці, асьвеце — усё гэта кіравала ў манастыр выдатных людзей усіх часоў. Адны йшлі сюды, каб сваё жыцьцё прысьвяціць Богу й малітвам за гэты грэшны сьвет, іншыя тысячамі прыходзілі на некалькі дзён ці гадзін, каб пакланіцца мошчам зазьзяўшых тут многіх угоднікаў Божых, памаліцца Усявышняму й натхнёнымі Гасподняй сілаю вярнуцца дадому і там несьці свой крыж.

У Кіева-Пячэрскай лаўры з бегам часу над падземнымі часткамі паўсталі велічныя надземныя збудаваньні: надзвычайнае красы Усьпенскі сабор (у вапошняй чвэрці XI ст.) і многія іншыя храмы й манастырскія пабудовы. Тут паўсталі першыя творы ўсходнеславянскае літаратуры як: „Аповесьць мінулых часоў” („Повесть временных лет”), жыційнае („Кіева-Пячэрскі пацярык”), багаслоўскае, палемічнае, перакладное й іншае. Дзейнічалі скрыпторыі, якія памнажалі колькасьць кніг; складалі царкоўную музыку кампазытары, пісалі іконы таленавітыя ізографы, працавалі залатары й розныя іншыя натхнёныя творцы прыгожага. Адсюль па ўсёй Усходняй Славяншчыне расьсявалася сьвятло набожнасьці, мудрасьці, навукі й мастацтва.

Лаўра некалькі разоў гінула ад іншаверных наезнікаў і ад сваіх адступнікаў ад веры Хрыстовае, але заўсёды ўваскрасала з папялішчаў і надалей сьвеціць прыкладам і ўзорам праўдзівага хрысьціянскага жыцьця.

**(іс)**



Людміла Рублеўская

# СЬМЕРЦЬ МАНАШКІ

Паўночны вецер нёс да Бога сьвечку
Над горадам, над холадам зямным,
Сабою захінаючы агеньчык.
І плашч за ім ляцеў,
як срэбны дым.
А ў чорым сэрцы клякатала бура —
Разбойная, наўрымсьлівая кроў.
Але паўночны вецер, цар пахмуры,
Нёс беражліва сьвечку, як любоў.
І толькі раз агеньчык здрыгануўся —
Ня змог стрымаць уздыху гаспадар.
А ноч бурліла па-над Белай Русьсю,
Туман клубіўся, як разьліты вар.
І ўсё гарэла сьвечка ў цэнтры жаху,
Таму што Бог чакаў сваю дачку.
Ля брамы ў рай,
на хмару, як на
плаху,
Паставіў вецер сьвечку — і адчуў,
Як аслабелі, зьдзервянелі рукі,
Што сатрасалі сьвет...
Але на іх
Гарэлі кроплі воску —
пацалункі
Дачкі прастораў сьветлых
і чужых.

# Сустрэча на рагу Афрыкі



У Йаханесбургу (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка) 19-29 студзеня г.г. праходзіла пасяджэньне Цэнтральнага Камітэта Сусьветнае Рады Цэркваў (СРЦ). Ад Польскае Праваслаўнае Царквы ўдзельнічаў у ім выкладчык Праваслаўнага Аддзяленьня Хрысьціянскае Тэалягічнае Акадэміі ў Варшаве **Усевалад Конах**, а ў групу моладзі, якая дапамагала ў спраўным правядзеньні пасяджэньня, уваходзіў аўтар гэтае нататкі **(Яраслаў Харкевіч)**. На пасяджэньні ў васноўным падсумавалася мінулагодняя дзейнасьць СРЦ і вызначаліся напрамкі яе працы на бліжэйшыя наступныя гады. Па ходу пасяджэньня былі прыняты ў члены арганізацыі тры новыя Цэрквы (у іх ліку Альбанская Праваслаўная Царква), вырашана, што наступная Агульная Асамблея СРЦ адбудзецца ў 1998 годе ў Харарэ (Зімбабвэ), былі заслуханы меркаваньні розных Цэркваў па разнастайных справах. Але ня ўражаньнямі з афіцыйнае часткі сустрэчы я хачу падзяліцца з чытачамі „ФОСа". Прапаную „выхад у кулуары".

У сустрэчы ўдзельнічала (разам з тэхнічным персаналам) болей за 400 чалавек. Магло-б здацца, што чалавек, які — як я — упершыню ўдзельнічае ў такой імпрэзе, разгубіцца й апануе яго стрэс, убачыўшы такую грамаду афіцыйных прадстаўнікоў. Нічога падобнага! Атмасфера роўнасьці й адкрытасьці панавала літаральна ўсюды. Дзякуючы гэтаму не толькі можна



было абмяняцца некалькімі словамі з Генеральным сакратаром СРЦ, доктарам **Конрадам Райзарам**, а таксама з многімі праваслаўнымі іерархамі з Грэцыі, Расіі, Румыніі альбо Альбаніі, ці, крыху пры нагодзе, пагутарыць з паслом Польшчы ў ПАР. Зразумела, найлягчэйшыя размовы йшлі за сталом альбо падчас вячэрніх банкетаў.

Яшчэ меней абмежаванасьцяў бывала падчас гутарак з аднагодкамі з усяго сьвету, якія таксама як і я прыбылі ў ПАР, каб дапамагчы ў правядзеньні пасяджэньня. Калі зьяўляліся моўныя перашкоды, мы пераадольвалі іх жэстамі, а гэтага было ўжо цалкам дастаткова. Часта дыскусіі былі такія глыбокія й на такія разнастайныя тэмы, што цяпер, з пэрспэктывы часу, я сам зьдзіўляюся, што дазваляла мне на тое маё веданьне ангельскае мовы.

„Кулуары" — гэта таксама, а нават болей плённыя за афіцыйныя сустрэчы, канкрэтныя рашэньні наконт будучага супрацоўніцтва. У маім выпадку — гэта размовы з прадстаўнікамі праваслаўных маладзёжных арганізацыяў з Альбаніі, ПАР, Балгарыі, Ганы й дэлегатамі некалькіх маладзёжных праваслаўных арганізацыяў. Ідэі й задумы, якія нараджаюцца ў такіх размовах часта дзякуючы ахвоце й намаганьням з абодвух бакоў потым зьдзяйсьняюцца. Маю надзею, што хаця-б некаторыя зь іх, прывезеныя з ПАР, будуць ажыцьцёўлены ў канкрэтнай дзейнасьці нашага Брацтва.

**Я. Харкевіч**

*З працаў студэнтаў Праваслаўнага Аддзяленьня Хрысьціянскае Праваслаўнае Акадэміі ў Варшаве*

**Юрый Паўлючук**

# Царква й дзяржава

## частка I

Царква — гэта містычны арганізм, у якім тое, што зямное, яднаецца з тым, што Нябеснае. З-за гэтага адзінства раскрыцьцё чалавечым розумам таямніцы Царквы стаецца надзвычай цяжкім. Царква ня ёсьць з гэтага сьвету (Ін. 17, 14; 18, 36), і чалавек можа спазнаць яе гісторыю, яе структуру, аднак яе сутнасьць у сваім богачалавецтве — гэта справа веры. Праўда пра тое выказана ў нікейска-канстанцінопальскім Сімвале Веры: „Веру ю ў адзіную Сьвятую, Саборную й Апостальскую Царкву". У розныя часы свае гісторыі Царква знаходзілася ў розных суадносінах зь дзяржаваю.

Першая Царква пачаткова ставілася да язычаскай дзяржавы як да пачвары, якая носіць вянец з выпісанымі на ім блюзьнерствамі. Царства пачвары змагаецца супраць сьвятых і прасьледуе Царкву. Адносіны да гэтага царства адмоўныя й эсхаталагічныя: прамінае гэты сьвет і хутка наступіць канец. Аднак эсхаталагізм спалучаецца з прызнаньнем дзяржавы ў гістарычным плане, таму што гісторыя працягваецца. Пераход ад эсхаталагізму да гісторыі відаць ужо ў Пасланьнях Апостала Паўла, асабліва ў трынаццатай главе Пасланьня рымлянам (13, 1-2): „Усякая душа няхай будзе пакорлівая вышэйшым уладам, бо няма ўлады, каб не ад Бога; існуючыя-ж улады ад Бога пастаўлены. Дзеля гэтага, хто супраціўляецца ўладзе, супрацівіцца Божай пастанове; тыя-ж, што супраціўляюцца, самі на сябе праклён нацягаюць".

У грамадзкім жыцьці хрысьціянін павінен ставіцца з глыбокай пашанай да Бога ва ўстаноўленай Богам паслухмянасьці да ўладаў. Апостал Павел тут кажа пра хрысьціяніна як грамадзяніна дзяржавы. Калі кожны грамадзянін павінен падпарадкоўвацца ўладзе, то тым больш абавязаны ў гэтым хрысьціянін, „бо няма ўлады, каб не ад Бога". Гэта першапрычына паслушэнства. Наогул улада паводле свае ідэі — гэта твор або прызнаньне Божае. Віды ўлады кожны раз устанаўляюцца Богам. Падрабязнасьцяў гэтай справы Апостал Павел глыбей не разглядае (невядома, напрыклад, як павінен паводзіць сябе хрысьціянін пры зьмене ўлады пасьля крывавай барацьбы зь

іншаю ўладай). Ён толькі вызначае прынцып грамадзянскага жыцьця. На падставе гэтых словаў Апостала хрысьціянскія паны, з часоў Людовіка Набожнага пачынаючы, сталі называць сябе ўладарамі з Ласкі Божае. Думка Апостала Паўла часткова адпавядае навуцы кнігі Прамудрасьці Саламона (6, 1-4): „Таму слухайце, каралі, і разумейце, навучыцеся, судзьдзі рубяжоў зямлі! Зважайце, уладарнікі людзтва й ганарлівыя перад народамі! Ад Госпада дадзена вам улада, і сіла — ад Усявышняга, Які спазнае вашы ўчынкі й рассуджвае вашы намеры. Бо вы, як слугі Яго царства, ня выносілі справядлівых прысудаў, н пытрымліваліся закону й не паступалі па волі Божай".

Непаслухмяных уладзе хрысьціян справядліва судзяць і асуджваюць. Гэтае асуджэньне, паводле Апостала, супраць непакорлівых выносіць сам Гасподзь, а зьдзяйсьняюць яго ўлады. Тут гаворка йдзе не пра вечнае асуджэньне, але пра часовае. Непакорлівы шкодзіць сам сабе й сьцягвае на сябе пакараньне. Неабходна заўважыць, што ў часе, калі Апостал пісаў Пасланьне рымлянам, Неран яшчэ не прасьледаваў хрысьціян. Гэта былі першыя 3-4 гады пасьля ўзыходу яго на пасад — лепшыя дні ягонага панаваньня, таму Апостал кажа пра ідэальную ўладу. „Нездарма носіць меч" (Рым. 13,4). Апостал дапускае магчымасьць, лічыць натуральным ужываньне судзьдзёй альбо ўладаром мяча пакараньня злачынцы. Гэтым асаблівым правам (Ius gladii) маглі карыстацца намесьнікі рымскіх правінцыяў.

Да ўладаў неабходна адносіцца з паслухмянасьцю ня толькі з-за пагрозы пакараньня, але таксама з-за маральных пачуцьцяў, сумленьня альбо, як кажа Апостал Пётр „дзеля Госпада" (І Пт., 2, 13). Тут выразна відаць: калі патрабаваньні ўлады супярэчаць сумленьню хрысьціяніна, ён павінен паступаць згодна з сумленьнем, а не з патрабаваньнямі ўлады. У гэтай справе Апостал Павел устанаўляе вядомае „права асуджэньня", напрыклад, у „Дзеяньнях Сьвятых Апосталаў": „І стражнік турмы абвясьціў Паўлу загад: „Прыслалі ваяводы, каб вас выпусьціць. Дык вось выходзьце й ідзіце зь мірам". Павел-жа сказаў ім: „Нас, рымскіх грамадзян, без суду білі перад народам і ўкінулі ў турму, а цяпер выпускаюць нас? О, не: няхай самі прыйдуць ды выведуць нас" (Дз., 16, 36-37). Яшчэ раз трэба падкрэсьліць, што права не выконваць загадаў улады Апостал пакідае выключна да справаў рэлігіі, калі дзяржаўная ўлада пачынае дэспатычна выкараняць праўдзівую веру. Тады сапраўдны хрысьціянін павінен бараніць веру й не ўступаць ні кроку, аднак яго пратэст і ў гэтым выпадку не павінен адносіцца да ўсіх дзялянак жыцьця. Свае грамадзянскія абавязкі хрысьціянін павінен выконваць незалежна ад абставінаў. Гэтак паступалі рымскія хрысьціяне ў час

самых цяжкіх прасьледаваньняў іх рымскімі імператарамі.

У I Пасланьні Апостала Пятра чытаем: „Дык будзьце пакорлівыя ўсякай уладзе чалавечай дзеля Госпада: ці то цару, як вышэйшай уладзе, ці то начальнікам, як ад яго пасланым дзеля пакараньня злачынцаў і дзеля заахвочаньня тых, хто робіць дабро, бо такая воля Божая, каб мы, робячы дабро, затыкалі вусны нявуцтву неразумных людзей... Усіх паважайце, брацтва любіце, Бога бойцеся, цара шануйце (I Пт., 2, 13-17).

Апостал падказвае хрысьціянам, каб яны былі пакорлівымі „ўсялякаму чалавечаму стварэньню". „Чалавечым стварэньнем" ён называе намесьнікаў, якіх ставяць імператары, а таксама саміх імператараў, хаця яны назначаны ці выбраны людзьмі. Апостал кажа: будзьце падданымі сьвецкім намесьнікам, але будзьце пакорлівымі Богу, як Ён наказаў: „Дык аддавайце кесарава кесару, а Божае Богу" (Мцв. 22,21). Так наказаў Хрыстос, так наказвае й Яго вучань.

Прападобны Феафілакт кажа: „Усіх паважайце, брацтва любіце, Бога бойцеся, цара шануйце". Глядзіце, якая дакладнасьць: Бога бойцеся, а цара шануйце. Калі Бога трэба баяцца тым, хто можа страціць і душу й цела (Мцв. 10, 28), то мы не павінны падлягаць імператарам, калі іх загады амаральны".

Служба імператару не мусіць быць перашкодай у шчырым служэньні Богу. Значыць, прызнаецца станоўчая роля дзяржавы на гістарычным шляху Царства Господняга. Гэта згодна са старазапаветным, прароцкім, як і з новазапаветным поглядам, які сьцьвярджае, што шляхі Царства Господняга ўключаюць у сябе таксама падзеі язычаскага сьвету й натуральныя сілы, што дзейнічаюць у гісторыі, і асабліва дзяржаву. Аднак адносіны Царквы да дзяржавы заставаліся толькі зьнешнімі да таго часу, пакуль дзяржаўная ўлада была язычніцкай. Аднак калі яна схілілася перад Крыжам у васобе імператара Канстанціна, становішча перамянілася ў гэтым сэнсе, што Царква аказалася значна бліжэй дзяржавы й узяла на сябе адказнасьць за яе лёс. Гэтае набліжэньне знайшло выраз у ролі імператара ў Царкве. Калі імператар стаў хрысьціянінам, Царква пераліла на яго свае дары ў сьвятым памазаньні й каранаваньні, а таксама ўзьлюбіла свайго памазаньніка не толькі як галаву дзяржавы, але таксама як носьбіта асаблівага блажэнства ўлады, як любімца Царквы, якая нясе вобраз самога Хрыста.

Імператар заняў сваё асаблівае мейсца ў царкоўнай іерархіі. Гэтае мейсца цяжка дакладна вызначыць, таму што яно спалучала розныя ролі: з аднаго боку імператар ушаноўваўся як надзеленая блажэнствам асоба, а з другога боку ён як быццам-бы быў прадстаўніком люду Божага, сьвецкага, выбранага народу, царскага сьвятара і, наканец, як пануючы, ён быў першым слугою Царквы, бо ў ягонай асобе дзяржава каранавала сябе крыжам. Сам

Канстанцін Вялікі лічыў сябе епіскапам па зьнешніх справах, вяртаючы такім чынам назьве „епіскап” значэньне адміністратара, наглядчыка па фінансавых і адміністрацыйных справах супольнасьці, які быў у часах апостальскіх. Узьдзеяньне імператара на Царкву фактычна вызначалася магутнасьцю дзяржавы, якою валодаў імператар. Таму становішча „зьнешняга епіскапа” ў Візантыі давала магчымасьць моцна ўплываць на Царкву, да скліканьня й кіраваньня Усяленскімі саборамі ўключна, і гэта не выклікала супраціву ні на Усходзе, ні на Захадзе.

У Візантыі суадносіны дзяржавы й Царквы вызначаліся паводле прынцыпаў гармоніі, альбо йнакш — абапіралася на ўзаемнай згодзе з адначаснай незалежнасьцю кожнага з бакоў. Дзяржава прызнала сваімі прынцыпы ўнутраных царкоўных законаў. Царква-ж палічыла, што павінна падпарадкавацца дзяржаве. Гэтая „гармонія” вымушана была існаваць у вадной хрысьціянскай „грамадзкасьці”, у якой таксама Царква, як і дзяржава супрацоўнічалі ў справе ўмацаваньня веры й у пабудове грамадзтва, заснаванага на хрысьціянскай любові й гуманізьме. Гэта ня быў цэзарапапізм, правамі якога імператар узначальваў Царкву. Цэзарапапізм заўсёды быў злом і ніколі не знайшоў дагматычнага й кананічнага абгрунтаваньня. Аднак „гарманічныя” ўзаемаадносіны Царквы й дзяржавы зводзіліся да таго, што імператар, правячы ўсімі дзялянкамі жыцьця, у рамках свае дзяржаўнае ўлады кіраваў таксама жыцьцём Царквы. Калі-ж „гармонія” была парушана супярэчлівасьцямі й імператары намагаліся дабіцца дагматычнага кіраваньня Царквой, накідаючы ёй свае дагматычныя ерасі (арыянства, іконаборства), тады Царква прасьледавалася й тады выяўляліся сапраўдныя адносіны да дзяржавы, якія ніколі ня былі дагматычным цэзарапапізмам.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*



*З нашага жыцьця*

## Навагодні баль

Епархіяльная Маладзёжная Рада пры Беластоцка-Гданьскай Епархіі наладзіла Навагодні баль паводле старога стылю. Адбыўся ён у Клубе Чыгуначніка ў Беластоку. Прыняло ў ім удзел болей за 200 чалавек. Забава была цудоўная й доўжылася яна да самага ранку.

## Зімовішча

У Міхалове 31 студзеня г.г. пачаўся маладзёжны лагер, які павялі Кася Булавік і Ася Мікалаевіч. Жылі мы ў старой плябаньні, якая яшчэ ў вельмі добрым стане (прымяркоўваючы да нашых патрэбаў). За тыднёвы побыт у Міхалове ў нас была нагода наведаць навакольныя цэрквы, між іншым у Юшкавым Грудзе й Тапалянах. Лідэры паклапаціліся пра дыскатэку, касьцёр і вечарыну за сьвечкамі. Такімі вечарамі мы гулялі ў розныя гульні, ігралі на гітарах і сьпявалі. Разважалі таксама пра хвалюючыя нас праблемы й справы. Кожны дзень пачыналі й канчалі супольнаю малітвай. Думаю, што ўсе надоўга запамятаюць гэты лагер, а той, хто не прыехаў на яго, няхай шкадуецца.

**(п.п.)**

## Ёлкі

Епархіяльная Маладзёжная Рада была суарганізатарам ёлак для дзяцей. Усіх разам адбылося іх сем: тры ў беластоцкіх дзіцячых дамах і чатыры (22-23.01.94) у Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыстве. Прыняло ў іх удзел каля 400 дзяцей. Дзятве найболей прыйшліся даспадобы нарыхтоўка печыва і „сучасны сьв. Мікола", што прылятае самалётам.

## Кулік

З нагоды Сусьветнага Дня Моладзі, 13 лютага г.г. Епархіяльная Маладзёжная Рада пры Беластоцка-Гданьскай Епархіі наладзіла епархіяльны кулік. Ён прайшоў у Гарадку й прыняло ў ім удзел болей за сто чалавек, зь якіх 60 зь Беластока. У праграме былі: паездка аўтобусам зь Беластока ў Гарадок, набажэнства ў царкве ў Гарадку, кулік з факеламі да кастра, касьцёр з каўбаскамі й музыкай і цудоўны настрой.

## Экскурсія Беласток—Гданьск

Група моладзі зь Беластока 25 лютага г.г. сабралася на экскурсію ў Гданьск. Выехалі мы пасьля набажэнства ў Сьвята-Мікалаеўскім саборы. Заехалі ў Гданьск каля восьмай гадзіны вечара. Тады-ж усю ноч доўжылася забава, наладжаная мясцовым гуртом Брацтва Праваслаўнае Моладзі. Гэта быў сапраўдны карнавальны баль! Наступнага дня, у суботу, мы наведалі гданьскі Стары горад, паехалі ў Сопат — пашпацыравалі па мола і па пятачку. Вечарам пабывалі ў сопацкім тэатры. У нядзелю прынялі ўдзел у

сьв. Літургіі ў Сьвята-Мікалаеўскай царкве ў Гданьску. Потым была III сусьветная вайна на сьнежкі й ужо трэба было вяртацца... Доўгая дарога цалкам не была доўгай — здалося, што мы хвіліну таму назад селі ў аўтобус, а вось ужо знаёмыя вуліцы нашага горада. Што-ж, мы пакорліва падпарадкаваліся патрабаваньням нашага лідэра: выйшлі з аўтобуса й падаліся дадому. Шкадуйце, хто не зьездзіў...

## Брацкая спартыўная алімпіяда

У пачатку 1994 года Брацтва Праваслаўнае Моладзі запачаткавала новую форму свае дзейнасьці. Шчыра ўзяўшы да сэрца лёзунг: „У здаровым целе й дух здаровы" сябры Брацтва прыступілі да правядзеньня першае ў гісторыі арганізацыі і, мабыць, усяе нашае Царквы, спартыўнае мініалімпіяды.

Да ўдзелу ў дзесяці відах спаборніцтваў былі запрошаны самыя актыўныя гурткі Брацтва, якія дзейнічаюць у паасобных парафіях. Нельга было не заўважыць, што напачатку ня надта вялікае зацікаўленьне пачало расьці й захапляць усё большае кола маладых людзей з розных парафіяў.

І Міжпарафіяльная алімпіяда Брацтва Праваслаўнае Моладзі пачалася ў палове лютага 1994 г. Прайшлі тады два віды спаборніцтваў: бадмінтон і бег на лыжах. Па бадмінтону ў спаборніцтвах юнакоў перамог **Юрка Грыцук** — прадстаўнік гуртка Брацтва з парафіі Усіх Сьвятых у Беластоку, у спаборніцтве дзяўчат перамагла **Аня Якубюк** зь Бельска. У камандным заліку перамагло Брацтва зь Бельска.

Па лыжнаму бегу ня мелі сабе роўных бегуны з гуртка Брацтва ў Супрасьлі. Яны перамаглі й у васабовым і ў камандным заліку. Сярод юнакоў першынстваваў **Крыстафор Гіба**, а сярод дзяўчат — **Агнеса Малец**.

Пасля розыгрышаў у двух відах па заваяваных ачках лідзіруе Брацтва з Супрасьлі перад гурткамі Брацтва з Усясьвяцкае й Сьвята-Ільінскае беластоцкіх парафіяў. За імі йдуць Бельск, Заблудаў і гурток Брацтва са Сьвята-Уваскрасенскага беластоцкага прыхода.

На сакавік прадбачаны спаборніцтвы па шахматах, брыджу й більярду, на красавік: па баскетболу, валейболу й настольнаму тэнісу. Заканчэньне ўсіх спаборніцтваў прадбачваецца на канец чэрвеня. На той гурток Брацтва, які здабудзе найбольш ачкоў разам ва ўсіх планаваных дзесяці відах спаборніцтваў, чакае спецыяльны пераходны кубак (пухар) фундаваны **Яго Высокапраасьвяшчэнствам Савам**, архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім.

**Я. Харкевіч**

**ФОС**

**КВАРТАЛЬНІК** моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі.
Рэдакцыя: **М. Гайдук**. Мастацкае афармленьне **Я. Харужы**.
Камп'ютэрнае складаньне: **Ю. Хмялеўскі**.
**Адрас для карэспандэнцыі:**
**Kancelaria Arcybiskupa Białostocko-Gdańskiego**
**ul. Liniarskiego 2, Białystok.**